№ 34. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыції: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 34 (126). Год II. Вільня, 27 красавіка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## ШТОКГОЛЬМ. 25. IV. Газэта рады работнікоу і салдатоу у Расеі прызывае народ збірацца на массовые сходы дзеля маніфэстації за тойчасны мір.

### 26 красавіка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На поўдні ад Скарп ворагі тройчы штурмавалі нашы лініі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Агульнае палажэньне не змянілося.

Пры Іртэбіз узяты 3 афіцэры, 160 салдатоў і лепшые пазиціі на хрыбце Шмэн-дэ-Дам.

Вячорны штурм французоў пры Брэ крывава адбіт.

**Ворагі утрацілі 6 самалётаў.**

**Усходні тэатр:**

На поўдні ад Рыгі, пры Якобштаці і Смаргоні, на ўсходзі ад Злочова, на Залатой Ліпе і ўздоўж Путны і Сэрэта крапчэў агонь расейцоў і наш у адказ на яго.

*Македонскі фронт:* У бітвах каля возера Дойран 24 красавіка спробы англічан прарвацца адбіты адважнай боўгарскай пяхотай.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Імперскі канцлер звярнуўся да ўсіх нямецкіх урадоў с пісьмом, у якім, між іншым, сказано:

„У апошнім часі ў некаторых месцох асобы, каторые сьвядома ці несьвядома станулі гэтак на старану ворагоў, памыкаліся перашкодзіць работнікам выпаўняць іх задачы. У рожных прэдпрыемствах работнікоў жывым словам, на пісьме і ў раздаваных лістках прызывалі спыніць работу. Далей былі чысьленые спробы удзержаць ад работы тых работнікоў, каторые, верные сваей павіннасьці, верталіся да сваіх варштатоў. Усім, хто вышэйсказаным способам памагае ворагам, або шкодзіць аружным сілам нямецкай дзержавы, статут аб карах суліць цяжкіе кары за здраду Ваўкаўшчыны. Хто наносіць удары у сьпіну нашым адважным ваякам, той астаецца за межамі еднасьці з народам і спазнае ўсю суровасць законаў".

БЭРЛІН. (В.ТБ..). Міманосцы ў ночы з 24 на 25 красавіка абстралялі Дюнкірхен. Пры каротккай сустрэчы с французскімі мінаносцамі затоплен торпэдаю варожы мінаносец, а артылерыйскім агнём—вартаўнічы ваенны параход ворагоў. Усе нашы мінаносцы вярнуліся назад бяз шкод і страт.

*Вільня, 27 красавіка.*

## Новы спосаб.

У Заходняй Эуропе побоч с чыста работніцкім социалістычным рухам мы спатыкаемся с кірункам, ведомым пад імем «хрысьціянскаго социалізму». Кірунак гэты створэн і вядзецца каталіцкім духавенствам. Як добрые палітыкі, кіраўнікі Каталіцкаго Касьцёла даўно зразумелі, што будучына належыць да працоўнаго народу, што організованы пролетарыат — гэта сіла, каторая раней, ці пазней здабудзе усё, чаго дабіваецца. І яны пастанавілі выкарыстаць гэту сілу дзеля сваіх мэт: ідучы на компроміс, яны гатовы ў некаторай часьці прызнаваць клясовые інтэрэсы работнікоў, але за гэта вымагаюць ад іх слухмянасьці і помачы ў палітыке Касьцёла.

«Хрысьціянскі социалізм» шырыцца на Заходзі асабліва ў тых краёх, дзе работнікі ўжо здабылі для сябе шырокіе правы. Але цяпер і Усход пераживае вельмі сур'ёзные перамены: няволеные царскім правіцельствам народные массы разбіваюць старые путы рабства, а наперадзі выступаюць організованые работнікі, заваёўваючы для сябе пануючае палажэньне. Гэтак і для нашаго Краю, незалежне ад таго, чы ў далейшым сваім жыцьці ён будзе бліжэй звязан з Заходам, ці з Усходам, наближаецца новая эра, калі голас працоўнаго народу будзе мець надта вялікую вагу. Разумеючы гэта, тутэйшае каталіцкае духавенство, узіраючыся на заходня-эуропейскіх «хрысьціянскіх социалістоў», пачынае рабіць крокі, каб чым хутчэй падчыніць сваей уласьці чым больш работнікоў, творачы для іх спэцыяльные організації.

Але між каталіцкім духавенствам на Заходзі і ў нас' ёсць дужа вялікая рожніца: пад той час, як там клер працуе перш за ўсё дзеля карысьці каталіцкай веры і Рыму, тут — у нашым Краю—вышэйшые духоўные уласьці служаць не справе каталіцкай, а справе польскай, абертаючы касьцельную амбону, спаведальніцу і навуку веры у спосаб апаляччыванья беларусоў. А як тутэйшые палякі — гэта найбольш паны-багатыры, ворагі працоўнаго народу, дык і вышэйшае духавенство, працуючы дзеля польскай справы, папраўдзі, служыць інтэрэсам польскаго панства, на грунці «нацыональнаго з'еднаньня» узмацовываючы яго уласць над цёмнымі массамі несьвядомых «тутэйшых» людзей.

Ня дзіва, што і той «хрысьціянскі социалізм», які некаторые прэдстаўнікі тутэйшаго духавенства прабуюць шырыць між ра-

Пятлюк Ільля, Сісмавы.
Петровіч Антон, Друя.
Петрушэвіч Константын, Вільня.
Плеварко Іван, Валожын.
Раўбут Юльян, Дуброўка.
Рагач Андрэй, Новае.
Рагуновіч Сьцепан, Лебедзево.
Сямец Вінцэнты, Пешчанка.

(Далей будзе).

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.